Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 1. Вільня, Чацьвер, 14-га лютага 1924 г. Год І.







## Рашучая часіна.

Польская Рэспубліка перажывае нязвычайна цяжкія часіны.

Фінансавы крызіс прымусіў польскую дзяржаўную ўладу, якая так шчыра, так горача бароніць прынцып прыватнае ўласнасьці, парушыць гэты прынцып і правясьці частковую нацыяналізацыю маемасьці ўсіх грамадзян Польшчы, прымушаючы кожнага аддаць частку свайго дабра на ратунак польскіх фінансаў.

Як у часе вайны, дзяржава прызывае пад знамёны ўсіх здольных да гэтага мужчын, ня пытаючыся аб іх веру і нацыянальнасьць, так і цяпер, у мамэнт барацьбы за аздараўленьне фінансаў гаспадарства, Польшча ўзлажыла абавязак аддачы часьці маемасьці на ўсіх сваіх грамадзян, а ў тым ліку і ўсе „нацыянальныя меншасьці“, якія прадстаўляюць траціну насяленьня Польскае Рэспублікі. І пад той час, як „крэсовыя“ палякі-абшарнікі ўсяляк стараюцца ўхіліцца ад цяжару, што на іх узложаны ў пастаці „падатку ад маемасьці“,— нашае сялянства пакорна плоціць тое, што ад яго вымагаюць.

Вось-жа ў гэты мамэнт, калі Польскай Рэспубліцы прыпатрэбіліся і грошы беларускага працоўнага народу, больш чым калі павінны мы падняць свой голас, дамагаючыся з поўным маральным і юрыдычным правам, каб народ наш пад уладай Польшчы нёс ня толькі абавязак аддаваць дзяржаве сваю кроў і сваю маемасьць, але каб і карыстаўся з тых правоў, якія яму забясьпечаны канстытуцыяй.

Гэтае нашае бязспрэчнае права выяўляецца ў гэты мамэнт агульных цяжкіх ахвяр на ратаваньне дзяржаўных фінансаў з асаблівай яркасьцяй. І ў гэты мамэнт „прыражоны гаспадар“ Польскае зямлі стараецца ўкрыць свае запраўдныя імкненьні да зьнішчажэньня так нялюбых яму „нацыянальных меншасьцяў“, заваяваных аружнай сілай. Але няхай толькі мінецца фінансавы крызіс, няхай паправіцца фінансавае палажэньне Польшчы напалавіну коштам „меншасьцяў“, і сягоньняшняе ўціхамiраньне „прыражонага гаспадара“ ізноў пяройдзе ў яшчэ больш вострую барацьбу з „інародцамі“. Значыць, калі мы сяньня не здабудзем належных нашаму народу правоў, дык іх ужо і ніколі не здабудзем....

Вось, чаму нашы прадстаўнікі ў польскіх законадаўчых палатах павінны з асаблівай цьвёрдасьцяй дамагацца ад польскае дзяржавы таго, што нам па праву належыцца. Вось, чаму ў гэты мамэнт нашаму грамадзянству патрэбна асаблівая еднасьць, салідарнасьць і цьвёрдасьць у сваіх дамаганьнях.

Выпускаючы ў сьвет гэты першы нумар нашае часопісі пасьля таго, як цэлы рад беларускіх газэт аказаўся зачыненым ўладай, мы, як сьлед, здаем сабе справу з таго, якую вагу мае грамадзкі голас пры сучасным палітычным палажэньні. І мы будзем старацца ў поўнай меры выкарыстаць нашу трыбуну дзеля таго, каб ня даць „прыражонаму гаспадару“ Польскае дзяржавы забыцца, што гэтая дзяржава будуецца і нашымі рукамі. Мы будзем імкнуцца да таго, каб запраўды стацца голасам Беларускага Народу, і ад яго імя станоўча і цьвёрда будзем дабівацца ўшанаваньня Яго правоў.

## Дзьве дарогі.

Адзін за адным зыйшлі ў магілу два найвыдатнейшыя палітычныя дзеячы нашых часоў, імёны каторых на вечныя часы будуць запісаны ў гісторыі чалавецтва: Ленін і Вільсон. Але ня толькі адначасная сьмерць прымушае нас сяньня паставіць побач гэтыя імёны: Ленін і Вільсон — гэта уасабленьне *двух розных сьветапаглядаў*, *дзьвюх розных ідэалёгіяў*, *дзьвюх розных дарог*, па якіх думка чалавецтва імкнецца *да аднае супольнае ўсім мэты: да шчасьця народаў.*

*Дыктатура* працоўных масаў, поўная *перамога Працы над Капіталам*, завядзеньне воляй пераможцы ўжо цяпер *сацыялістычнага ладу*, аб якім ідэалёгі сацыялізму лятуцелі, як аб нейкім далёкім - далёкім ідэале,—вось асноўныя пагляды тварца расейскага камунізму ў сфэры грамадзкага жыцьця. *Поўнае падчыненьне гэтага жыцьця інтарэсам пралетарыяту* — галоўны кліч Леніна.

Кароткая, але дужа ўдачная характарыстыка Вільсона, дадзеная лейб-органам польскіх сацыялістаў, рысуе тып зусім процілежны, як процілежнымі зьяўляюцца стары *дэмакратызм* і сучасны *рэвалюцыйны марксізм.* „Памёршы прэзыдэнт,—піша „Robotnik“,— належаў да нячысьленае грамадкі *буржуазных* ідэалёгаў, што асталіся вернымі прынцыпам *палітычнае дэмакратыі*, а ў адносінах да сацыяльных пытаньняў займаюць шчырае і об‘ектыўнае становішча, не абмяжовываючыся абаронай капіталістычных прывілеяў і імкнучыся прынамсі да *кампраміснага разьвязаньня канфлікту паміж капіталам і працай*“.

Мы ў прыведзеных вышэй радкох падчыркнулі тыя словы, якія найбольш ярка выяўляюць ідэйную супярэчнасьць у *сацыяльных* паглядах абодвых памершых палітычных дзеячоў, ня гледзячы на *супольнасьць іх мэты:* імкненьня разьвязаць адвечны канфлікт паміж працай і капіталам. А гэтая супярэчнасьць выявіцца йшчэ больш, калі пяройдзем ад *унутранага* жыцьця народаў да *вонкавых* адносінаў паміж імі.

Узгадаваны ў духу амэрыканскага дэмакратызму, які ў межах Злучаных Штатаў ня мае зусім *нацыянальных* пытаньняў з прычыны поўнае нацыянальнае свабоды для ўсіх нацыянальных груп насяленьня, Вільсон ня мог і ня ўмеў адчуць і зразумець, што такое нацыянальны ўціск чужое дзяржавы ў адносінах да паняволеных народаў... І ў яго знамянітых *чатырнаццацёх пунктах*, на якіх ён маніўся пабудаваць трывалы мір у Эўропе, разьвязываецца фактычна *ня справа нацыянальнасьцей*, хаця там і гаворыцца аб „самавызначэньні“ іх, *а справа адносінаў паміж дзяржавамі.* Эўрапэйскі дэмакратызм, які і ня думаў падыходзіць да разьвязаньня пытаньня аб народах „недзяржаўных“, апрача тых, што памагалі антанце перамагчы Нямеччыну, скарыстаў з гэнага абмылковага пагляду амэрыканца, мераўшага ўсё меркай амэрыканскіх адносінаў. І пункты Вільсона не далі разьвязкі нацыянальнага пытаньня, а толькі дапамаглі групе дзяржаваў умацаваць сваю ўладу над слабейшымі народамі.

Ідэалёгія Леніна, глядзеўшага на нацыянальнае пытаньне скрозь прызму нацыянальных адносінаў у Эўропе і абвяшчаўшага таксама „самавызначэньне“ народаў, пайшла шмат далей. Ленін зусім выразна пайшоў па дарозе тварэньня нацыянальных рэспублік „недзяржаўных“ народаў на асновах радавае канстытуцыі, злучаючы гэтыя рэспублікі ў вялізарны саюз, што павінен быў абняць усю Эўропу, а мо‘ і ўвесь сьвет. Ленін выходзіў з таго-ж асноўнога прынцыпу, на якім будаваў свае сусьветныя пляны і Вільсон, але Ленін усьцярогся падмены паняцьця нацыянальнасьцей паняцьцем гаспадарстваў, і затым яго разьвязка нацыянальнага пытаньня аказалася больш жыцьцёвай і больш блізкай да вільсонаўскага ідэалу, чым усе дасяжэньні самога Вільсона.

Традыцыі нашых бацькоў і дзядоў, навукі нашых настаўнікаў—усё гэта вельмі цэнны скарб. Але благі той вучань, які гэтага скарбу не памнажае сваей уласнай творчасьцяй. Такім вучнем старых ідэалёгаў дэмакратызму аказаўся Вільсон, які маніўся правясьці ў жыцьцё навукі сваіх ідэйных настаўнікаў, ня творачы нічога сам. Але навукі і ідэалы ягоных настаўнікаў—гэта плод мысьлі старога пакаленьня, якое жыло пры зусім іншых абставінах, чым сягоньняшняе. І ад „пунктаў“ Вільсона не асталося ніякага сьледу... Зусім інакшай дарогай пайшоў Ленін: сягнуўшы сьмелай рукой па тое далёкае, што настаўнікі яго лічылі для сябе недасяжным, ён пабудаваў зусім новы дзяржаўны гмах, які йшчэ ня меў сабе падобных. І хоцьбы гэты гмах аказаўся недаўгавечным, хоць-бы ў ім прышлося новым пакаленьням шмат што перарабіць, тая разьвязка нацыянальнага пытаньня, якую прадстаўляе С.С.Р.Р. дасьць нязьнішчальныя ўжо вынікі: бо тыя „недзяржаўныя“ народы, для якіх нічога ня здолеў зрабіць Вільсон, уваходзячы ў склад С.С.Р.Р., настолькі выраступь культурна, нацыянальна і палітычна, што ніхто і нішто ня зможа ўжо іх вярнуць у стан рабства.

**К. Фалькевіч.**

## Прызнаньне Радавага ураду праз Англію.

Дзень 1-га лютага 1924 году застанецца ў гісторыі, як дзень вялікай перамогі рэвалюцыйных работнікаў і сялян Радавых рэспублік, бо ў гэты дзень ангельскі ўрад фармальна прызнаў Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік, а ўрад гэтых рэспублік, як урад de jure (праўны, законны) тых тэрыторый былога Расейскай імпэрыі, якія прызнаюць гэты ўрад сваей „законнай уладай“.

Перамога Радавых Рэспублік зьяўляецца тым большаю, што ўрад найстарэйшай у сьвеце капіталістычнай вялікай дзяржавы не зажадаў ад маладых работніцка-сялянскіх рэспублік узамену за прызнаньне *ніякіх* варункаў, ніякіх гарантыяў. Яшчэ больш! У ноце, якую ангельскі прадстаўнік уручыў радаваму ўраду ў Маскве, выразна падчыркнута неабходнасьць урэгуляваньня *„узаемных* прэтэнсыяў урадаў абодвых краёў“. Тут ужо зьяўляецца маральнае забавязаньне здаваленьня жаданьняў Радавай улады зьвярнуць шкоды Радавым рэспублікам і іх насяленьню за той авантурыстычны паход Англіі ў 1918 г. на Мурман і за падтрыманьне бандаў расейскай контр-рэвалюцыі—Дэнікіна, Врангеля, Юдэніча і Колчака, якія так многа прычыніліся да гаспадарчай разрухі маладых сацыялістычных рэспублік.

Мы бачым, як далёка Англія адыйшла ад сваей дасюлешняй палітыкі адносна С. С. Р. Р. Ня кажучы ўжо аб спробе задушыць пралетарскую рэвалюцыю беспасрэдна сілай ангельскага аружжа і аб дыплёматычна-фінансавым падтрыманьні высілкаў расейскай контр-рэвалюцыі, даволі ўспомніць тое, што рабілася ўлетку леташняга году —вядомы ультыматум Кэрзона, ягоны пагражаючы Радавым Рэспублікам браніраваны кулак, які не дапяў мэты, толькі дзякуючы рашучаму становішчу ўсяго насяленьня С. С. Р. Р.

Яшчэ ў апошніх днях свайго ўрадаваньня той самы міністар Кэрзон, сябра консэрватыўнага ўраду Бальдвіна, аб якім кожны ведаў, што ў хуткім часе будзе звалены, прабаваў справакаваць радавы ўрад праз вызываючую палітыку адносна Афганістана, які знаходзіўся ў прыязных адносінах з С. С. Р. Р.

Цяперашні зварот у палітыцы Англіі зьяўляецца вынікам шматгадовай кампаніі ангельскіх работнікаў за прызнаньне радавага ўраду. „Handas off“ — „прэч ад Радавых Рэспублік!“—даўно ўжо зьяўляецца баявым лёзунгам ня толькі камуністычнага авангарду, але і ўсяго ангельскага пралетарыяту. Прызнаньне Радавых Рэспублік было адным з галоўных лёзунгаў Партыі Працы ў часе выбараў і ўрад Мак-Дональда прымуша-

ны быў яго выпаўніць. Такім чынам прызнаньне Радаў зьяўляецца ня толькі перамогай Радавых Рэспублік, але таксама *перамогай работнікаў капіталістычнай Англіі над уласнай буржуазіяй.*

Усю важнасьць акту ўраду Партыі Працы цяпер трудна прадбачыць, але ясна, што гэта будзе мець вялікае значэньне, як для Саюзу Радавых Рэспублік, так і для агульнай міжнароднай сітуацыі.

У мамэнт, калі па сьмерці Леніна і шырокай дыскусіі ўнутры Радавай Камуністычнай Партыі над галоўнымі заданьнямі партыйнага і дзяржаўнага жыцьця, зноў абудзіліся надзеі чорнай рэакцыі, і розныя пісакі пачалі варажыць хуткі канец радавай улады, прызнаньне гэтай улады праз Англію ўзмацоўвае яе на арэне міжнародных адносінаў. Пасьля прызнаньня Радавых Рэспублік праз ангельскі ўрад гэтае самае прымушаны будуць зрабіць і іншыя ўрады. Гэта ўжо зрабіў нават фашыстаўскі ўрад Мусоліні ў Італіі. Жыцьцё прымусіць зрабіць гэтае-ж і паваеннага дыктатара Эўропы Пуанкарэ.

Для ўнутранога жыцьця Радавых Рэспублік прызнаньне іх праз Англію адкрывае шырокія гандлёвыя і крэдытовыя пэрспэктывы. Ангельская нота выразна прадбачыць „адкрыцьце крэдытаў для Расеі“.

Для агульна-эўрапэйскіх міжнародных адносінаў прызнаньне праз Англію Радавых Рэспублік азначае першы крок ураду Макдональда на шляху звароту Англіі да жыцьця контынэнтальнай Эўропы, ад якой папярэдні консэрватыўны ўрад трымаўся здалёк.

Урэшце, тут трэба адзначыць і тое вялізарнае значэньне, якое мае гэты акт ангельскага ўраду ў жыцьці беларускага нарсду. Прызнаючы Радавыя Рэспублікі, Англія прызнае і Беларускую Радавую Рэспубліку; прызнаецца самай магутнай дзяржавай Заходняй Эўропы права беларускага народу *да самастойнага незалежнага дзяржаўнага жыцьця.* Гэта факт першараднага значэньня, асабліва, калі прыняць пад увагу, што яшчэ так нядаўна, ды й цяпер шмат яшчэ ёсьць такіх асобаў, асабліва тут у Польшчы, якія сіляцца ў бязьсільнай злосьці скрыць перад сьветам самы факт істнаваньня беларускага народу.

## Прэсовыя рэпрэсыі.

30 студзеня г. г. львоўская паліцыя ўварвалася да рэдакцыяў органаў Украінскай Сац.-Дэмакр. Партыі—„Вперед“, „Земля і Воля“ і культурна-прасьветнага месячніка „Нова Культура“ і пасьля падрабязнага вобыску ў рэдакцыйных памешканьнях арыштавала адказнага рэдактара „Впереду“ І. Калятынскага, сэкрэтара У. С. Д. П. Чарнэцкага і шмат іншых сябраў Галоўнага Ураду У. С. Д. П.

Як матывы зачыненьня „Впереду“ і „Зямлі і Волі“ паліцыя падае, што У. С. Д. П. разьвязана, але аб гэтым факце Галоўны Урад Партыі паведамлены ня быў. Укр. Сац. Дэм. Парт. зьяўляецца палітычнай партыяй украінскага пралетарыяту і сялянства і гэтая партыя зусім яўна і легальна ўжо істнуе 30 гадоў.

У Сойме ў гэтай справе будзе ўнесена сьпешная прапазіцыя.

---

Апошні нумар варшаўскай „Nowej Kultury“, пасьвячоны памяці Леніна, сканфіскаваны праз Камісара Ураду г. Варшавы. З гэтай прычыны „Trybuna Robotnicza“ у № 17 (60) піша:

> „Буржуазнай прэсе дазваляецца аплёўваць памяць чалавека, якога паважаюць мільёны работнікаў і сялян усяго сьвету, чалавека, аб якім орган ангельскага ўраду („Daily Herald“) пісаў, што „быў адным з найбольшых людзей у гісторыі сьвета, волат сярод людзей“.
>
> Але газэтам незалежнай работніцкай думкі ня можна ў Варшаве злажыць пасьмертнай пашаны вечнатрывалай памяці Леніна, ня можна падаць датаў і фактаў з яго жыцьця, ня можна абгаварваць аго тэорытычнай і практычнай дзейнасьці“.

---

У тым-жа нумары „Trybuna Robotnicza“ наагул застанаўляецца над справай павялічэньня прэсовых рэпрысыяў:

> „Ад пэўнага часу канфіскаты народных газэтаў і суды над імі ня спыняюцца.
>
> Знаем, што лішнім было-б паўтараць сучасным міністрам Рэчыпаспалітай, паўтараць тое, што яны самі, як сябры опозыцыі, казалі.
>
> Адкуль-жа йдзе гэтая антырэвалюцыйная заўзятасьць, адкуль гэтая прагавітасьць прасьледаваньня ў людзях, па натуры так мала гарачых?...
>
> Пэўна адтуль, што ў запраўднасьці яны зьяўляюцца прыладамі партыі, якая... пануе і правіць. Гэтая партыя знайшла ў міністэрстве найбольш адпаведнае цела, каб прыняць яго форму. Бо чым-жа ёсьць у запраўднасьці гэтае міністэрства бяз веры, бяз ідэі, ініцыятывы, чым яно зьяўляецца само па сабе, калі ня целам бяз душы“.
>
> Так, сілу прасьледаваньня яно чэрпае вонкі. Бярэ яно сваю жоўць, сваю ненавісьць, свой страх ад сваіх палітычных прыяцеляў—фінансістаў, генаралаў манархіі“.



# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Нарэшце 9/II, пасьля каля 2 месяцаў „перарыву“ ў міжнародным жыцьці і заграні́чнай палітыцы Польшчы, у апошняй зьявіўся ізноў міністар заграні́чных спраў: граф Замойскі прыехаў нарэшце з Парыжу і „абняў урадаваньне“.

---

Соймавая камісія абароны працы прыняла праект закону аб дапамогах безработным. Халасты работнік „павінен атрымліваць“ 30 прац. сваей платы; на сям'ю — 5—20 прац. дадатку. Усё гэта—добра..., калі толькі п. мін. фінансаў, з прычыны ашчаднасьці і адсутнасьці грошаў, не перакрыжуе ўсе гэтыя „падарункі“ работніку.

---

Фінансавы дарадца пры польскім урадзе п. Х. Юнг закончыў сваю працу па ізучэньню фінансава-гаспадарчага састаяньня Польшчы і выехаў дамоў.

---

15 лютага пачнецца ў Варшаве конфэрэнцыя міністраў загр. спраў Балтыцкіх дзяржаў.

---

У зьвязку з выкрытай фашыстаўскай арганізацыяй Р. Р. Р. арыштаваны ген. Мацэевіч, галоўны інспэктар польск. ваеннай авіацыі (паветранага флёту).

---

5/II падпісаны дагавор паміж лодзінскімі прамыслоўцамі і работнікамі, якім спыніўся доўгі канфлікт паміж імі. Заработная плата будзе абрахоўвацца ў „залатых франках“.

---

Нядаўна быў апублікаваны дэкрэт п. Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай аб спыненьні друкаваньня папяровых марак на патрэбы скарбу. Але аказываецца, гэта зусім не азначае поўнага спыненьня друкаваньня непакрытых грошаў, бо маркі будуць выпускацца на патрэбы гаспадарчыя, — на крэдытаваньне прамыслоўцаў і на іншыя рэчы.

Мін. Грабскі абяцае хутка ўжо зусім спыніць і гэты друк.

---

У Варшаве ізноў падкінута бомба ў падвальнае памяшчэньне Люксэмбурскага гатэлю.

---

Сойм прыняў законапраект аб вайсковай павіннасьці ў рэдакцыі камісіі, якая прапанавала **2-хгадовы** тэрмін службы.

---

На люблінскай фабрыцы аэраплянаў пажар нарабіў стратаў на 1 трыльён марак.

---

У Варшаве, Кракаве і Вільні адбыўся рад працэсаў проціў гурткоў моладзі і іншых арганізацыяў, якія ўлада лічыць камуністычнымі. У Вільні шэраг асоб з прадвыбарнай арганізацыі „Сувязь пралетарыяту местаў і вёсак“ засуджаны судом на тры гады крэпасьці...

---

У Варшаве закончыўся вялікі, цягнуўшыйся са 2 тыдні працэс вядомага польска-расейскага дзеяча п. Ледніцкага, які абвінавачваў у палітычным паклёпе рэд. „Gaz. Warsz.“ п. Васілеўскага, закідаўшага яму „здраду польскага стану“... Суд апраўдаў Васілеўскага.

---

У Львове забаставалі наборшчыкі, дамагаючыся павялічэньня платы. Працадаўцы адмовілі дамаганьням работнікаў.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Уплыў новага ўраду ангельскага на французскае гаспадараваньне ў Руры і Надрэніі адчуваецца вельмі значна.

---

Праца абодвух камісій рэчазнаўцаў для ізучэньня фінансава-гаспадарчага палажэньня Нямеччыны і ўрэгуляваньня нямецкіх фінансаў закончылася. Выпрацаваны другой камісіяй праект статуту для эмісыйнага банку Рэспублікі наагул адобраны фінансавым дыктатарам Нямеччыны п. Шахтам.

Першай камісіі, паводле ангельскіх інфармацыяў, праўда, не ўдалося дазнацца, у якіх банках нямецкія прамыслоўцы і банкіры перахоўваюць ад французаў свае капіталы (нашлі дурняў!...), але ўсякія весткі (французскія) аб тым, што камісія мела перашкоды з боку нямецкага ўраду ў сваей працы,—няпраўдзівы.

---

Урад ням. Рэспублікі прыняў новы праект выбарнага закону, паводле якога, трэба думаць, прайдуць новыя выбары вясной.

---

Сэнсацыйны працэс ген. Людэндорфа і правадыра баварскіх фашыстаў Гітлера адложаны на 26/II.

## С. С. Р. Р.

Радавы ўрад згадзіўся на ўчасьце ў працах марской камісіі Лігі Народаў, якая мае мэтай пашырэньне на ўсе дзяржавы пастановаў Вашынгтонскай Канфэрэнцыі аб абмежаваньні марскіх вааружэньняў. Гэты крок вельмі добра прыняты ў Англіі і ў Лізе, як запаведзь хуткага ўваходу Саюзу ў Лігу.

---

Заступнік Леніна Рыкаў захварэў.

---

Нямецкія газэты падаюць весткі аб плянах будучай палітыкі новага Радавага Ураду. Перадусім увага будзе зьвернута на задаваленьне патрэбаў шматмільённай сялянскай масы, якой будзе дадзены танны прадукт гарадзкой прамысловасьці і асобныя прывілеі. У загранічнай палітыцы ўрад, апіраючыся на прызнаньне ангельскага ўраду, патрабуе таксама сьпярша прызнаньня ад усіх іншых дзяржаваў—перад заключэньнем з імі якіх-небудзь дагавораў.

## ФРАНЦЫЯ.

Паважна захварэў найвялікшы з сучасных пісьменьнікаў Францыі Анатоль Франс.

---

Францускі парлямэнт, пасьля вельмі бурлівых спрэчак, у часе якіх прэм. Пуанкарэ нават пакідаў залю паседжаньняў, прыняў урадавы законапраект аб вынятковых паўнамоцтвах для ўраду большасьцю 329 галасоў проці 217.

Урад атрымаў права скасаваць да 1 мільярда з дзяржаўных выдаткаў і выдаваць дэкрэты ў працягу 4-х месяцаў, якія-б не зьмянялі істнуючых законаў.

## ІТАЛІЯ.

Урад п. Мусоліні фармальна прызнаў С.С.Р.Р. П. Іорданскі назначаны паўнамоцным паслом у Рым.

---

Рымскія газэты пішуць, быццам Ватыкан („урад“ Рымскага Папы) рашыў ужо прызнаць С.С.Р.Р.

## АНГЛІЯ.

Мак-Дональд заявіў, што жадае як найхутчэй прыняцьця Нямеччыны і Рад. Расеі ў Лігу Народаў, што зрабіла-б дзеяльнасьць апошняй больш рэальнай.

---

У адказ на ангельскую ноту з праўным прызнаньнем Рад. Ураду апошні перадаў М. Дональду ноту, у якой выказвае сваю гатоўнасьць абгаварыць і вырашыць у прыязным духу ўсе спорныя пытаньні. Пакуль што Ракоўскі астаецца прадстаўніком С.С.Р.Р. у Лёндыне, і яму даручана высьвятленьне справы ангельскіх крэдытаў для С.С.Р.Р.

---

Мін. унутр. спр. Гэндэрсон у апошняй мове казаў, што хутка ангельскі ўрад запрапануе новую агульн. канфэрэнцыю, у якой будуць прадстаўлены *ўсе* дзяржавы Эўропы і Амэрыка. Гэтая канфэрэнцыя заложыць падставы новага трывалага парадку ў Эўропе, які будзе абапёрты на супольнай працы, узаемным даверыі і добрай волі. (Гэта значыць, Мак-Дональд запрапануе перагляд Вэрсальскага Трактату..)

---

Ветлівы, але рашучы тон Мак-Дональда ў адносінах да Францускага ўраду ўжо здалеў стварыць цэлы рад паважных пасьпехаў. Франц. урад пайшоў на вельмі важныя ўступкі ў акупацыйным рэжыме на абшары Руры, і амаль ня зусім спыніў фарсаваньне „незалежнасьці“ ў Надрэньні.

---

Ангельскі ўрад загадаў неадкладна зволыніць з вастрога правадыра індыйскіх незалежнікаў і рэлігійнага рэфарматара Ганді.

---

Ангельскі урад запрапанаваў спыненьне ваеннай акупацыі Надрэніі і перадачы яе пад нагляд Лігі Народаў.

Мак-Дональд на жаданьне ягіпэцкага ўраду загадаў, каб усе палітычныя праступнікі (таксама незалежнікі), засуджаныя ваеннымі судамі, былі звольнены з вастрогаў. У зьвязку з гэтым адносіны паміж народам і ўрадам Ягіпту і ангельцамі значна папраўліся.

---

Нямецк. газ. пішуць, што Галоўная Рада Партыі Працы пастанавіла правясьці ў жыцьцё сацыялізацыю ўсей зямлі ў Англіі. Быццам Мак-Дональд рыхтуе адпаведны законапраект...

---

Цэлы рад міністраў-работнікаў, па прыкладу Гэндэрсона, адмовіўся ад паловы лішне вялікай пэнсіі ў 10.000 фунтаў штэрлінгаў у год (анг. фунт — каля 50 мільён. польск. мар.).

## ЛАТВІЯ.

Новы прэм'ер Самуэльс заявіў, што яго ўрад будзе вельмі прыхільным да нацыянальных меншасьцяў і згаджаецца з іх дамаганьнем культ.-нацыян. аўтаноміі.

Добры прыклад для іншых „балтыцкіх“ дзяржаў.

## МЭКСЫКА.

Быццам ужо разьбітыя рэвалюцыянеры ізноў занялі сталіцу Вэракруц і іншыя галоўныя месты краю.

## АМЭРЫКА.

Памер Вудро Вільсон, які быў прэзыдэнтам Амэрыканскай Рэспублікі ў часе вялікай вайны і йграў такую агромную ролю ў часе мірнай канфэрэнцыі.

# З Польскага Сойму.

### Прамова

*пасла С. Крулікоўскага ў часе разгляду Соймам закону аб абавязковай вайсковай службе.*

Я ня мог узяць слова ў агульнай дыскусіі, хоць і запісаўся да дыскусіі, бо дыскусію спынілі і дзеля гэтага, хоць у кароткіх словах, мушу парушыць некаторыя агульныя прынцыпы, каб былі зразумелымі і тыя папраўкі, якія ўношу да гэтага закону, таксама і дзеля таго, каб было зразумелым і прынцыповае становішча адносна гэтага закону аб войску. Наперад мушу зазначыць, што мы чулі тут не адзін раз, што армія, быццам, выключна служыць для абароны незалежнасьці дзяржавы, народу, і абароны воль-

штаты, каб плацілі пазбаўленым працы засілкі да часу ўвядзеньня ў жыцьцё закону аб забесьпячэньні на выпадак безрабоцьця.

Абодва гэтыя заданьні—утрыманьне дасюлешняй роўні платы і змаганьне з безрабоцьцем зьяўляюцца самымі жыцьцёвымі, найбольш абходзячымі работніцкую клясу справамі.

Зварочваем на іх увагу ўсіх нашых аб'яднаных арганізацыяў і заклікаем да напружанай увагі.

З мэтай азнаямленьня огулу сябраў саюзаў і ўсей работніцкай клясы з гэтай сітуацыяй і каб зьвярнуць увагу на грозныя пэрспэктывы, а таксама каб зрабіць прэсыю на ўрадовыя ўлады ў напрамку зрэалізаваньня работніцкіх пастулятаў у гэтых справах, заклікаем усе прафэсыянальныя саюзы распачаць акцыю сабраньняў і пратэстаў.

Правакацыйныя замеры капіталістаў павінны напаткацца ў радох прафэсыянальных арганізацыяў на нязломны салідарны спраціў".

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ХРОНІКА.

**У Беларускай Драматычнай Майстроўні.** У сераду, 30 студзеня б. г. разглядаўся праект статуту Таварыства, апрацаваны Статутнай Камісіяй.

Па гэтаму праекту Беларуская Драматычная Майстроўня ёсьць каапэратыўным таварыствам, якое мае на мэце стварыць у Вільні Беларускі тэатр і кінематограф, ды дапамагаць сваім сябром з эканамічнага боку.

Усімі справамі Таварыства кіруець Агульны сход сяброў Таварыства, які абірае Наглядную Раду ў складзе дзевяцёх сяброў і пяцёх кандыдатаў.

Наглядная Рада вызначае беспасрэдны выканаўчы орган—Дырэкцыю ў складзе трох дырэктароў і двух віцэ-дырэктароў. Паколькі—у Дырэкцыю былі-б вызначаны сябры Нагляднае Рады, гэтыя апошнія выходзяць з складу Рады, адступаючы сваі месцы кандыдатам.

У Таварыства можа ўступіць кожны грамадзянін, бяз розьніцы палавы і рэлігіі, які спачуваець мэтам Таварыства.

Сяброўская складка (адна на ўвесь час) вызначана ў суме дзесяцёх польскіх злотых і адзін злоты ўступнае платы. Пры заяве аб жаданьні ўступіць у Таварыства, трэба прыкладаць два злотых: уступная плата і адзін злоты ў лік сяброўскае складкі; рэшту можна ўносіць часткамі.

Апроч сяброў ў склад Т—ва ўваходзяць яшчэ „супрацоўнікі", якія карыстаюцца толькі дарадчым голасам і то — пры абгаворах чыста мастацкіх пытаньняў. Ад узносу сяброўскае складкі супрацоўнікі звольнены, але за магчымасьць практыкаваньня на сцэне і атрымліваць тэорэтычную веду, яны дарма аддаюць Т—ву сваю працу. Прыймо супрацоўнікаў робіцца па пастановах Дырэкцыі.

Праект гэты, пасьля абгавораў, быў прыняты аднагалосна з невялічкімі папраўкамі тэхнічнага характару.

Пасьля гэтага адбыліся выборы ў Наглядную Раду Т—ва, у якую ўвайшлі: 1) Францішак Аляховіч 2) Радаслаў Астроўскі, 3) Эдвард Будзька, 4) Антон Трэпка, 5) Леонард Замэцкі, 6) Мікола Красінскі, 7) Язэп Гапановіч, 8) Аляксандар Міхалевіч, 9) Мітрапан Кэпэль і кандыдатамі: 1) Міхал Пяткевіч, 2) Арсень Канчэўскі, 3) Раіса Залкінд, 4) Аляксандра Быхавец і 5) Уладзімір Манкевіч.

**Кіраўніцтва Беларускай Драматычнай Майстроўняй.** У чацьвер, 31-га студзеня Наглядная Рада вызначыла на паседжаньні сваім Дырэкцыю Т-ва ў такім складзе: Дырэктары—Францішак Аляхновіч, Мікола Красінскі ды Эдвард Будзька і Віцэ-Дырэктары—Надзея Більдзюкевіч (старшыня гуртка беларускіх кабет) і Адам Гапановіч-Бурта.

Праца паміж сябрамі Дырэкцыі мае быць падзелена так: Ф. Аляхновіч пакіне за сабой агульнае прадстаўніцтва і працу ў Мастацкай Радзе, М. Красінскі возьмець на сябе тэхнічнае кіраўніцтва ўсей працай у Майстроўні, а Э. Будзька будзе кіраваць гаспадарчай часткай Т-ва пры дапамозе Віцэ-Дырэктароў: Н. Більдзюкевічыхі (прадуктовая гаспадарка) і А. Гапановіча-Бурты (скарбніцтва ды рахункаводзтва).

З прычыны абраньня ў дырэкцыю сяброў Нагляднае Рады: Аляхновіча, Красінскага, Будзькі, у Раду ўвайшлі тры кандыдаты, г. ё. М. Пяткевіч, А. Канчэўскі ды Р. Залкінд.

Тады-ж быў створаны і Прэзыдыум Нагляднае Рады. У старшыні аказаўся абраным Антон Нэканда-Трэпка, б. Дырэктар Віленскае Беларускае Гімназіі, адзін з невялічкай ужо цяпер, старой грамады беларускіх працаўнікоў - адраджэнцаў. Мы з асаблівай шчырасьцю вітаем гэтае абраньне, бо мы запэўнены, што дзядзька Трэпка, маючы бадай самую шырокую сярод нашае інтэлігенцыі адукацыю (найвышэйшыя школы скончыў ў Пецярбурзе і ў Бэльгіі), добра азнаёмлены з замежным культурным жыцьцём (аб'ехаў, як ён сам, сьмяючыся, кажа, дзесяць замежных стольных гарадоў), жыва адчуваючы кожную праяву, кожны рух у нашым культурным жыцьці, здалее згуртаваць каля Т—ва ўсе жывыя культурныя сілы.

У заступнікі старшыні аказаўся абраным М. Пяткевіч, а ў сэкрэтары—Я. Гапановіч (каапэратар).

На тым жа паседжаньні Наглядная Рада даручыла Дырэкцыі прадставіць у Суд на зацьверджаньне прыняты праект статуту Т—ва.

Пажадаем-жаж кіраўніцтву Драматычнае Майстроўні пасьпеху ў яе працы.

**Справа часопісі „Вольны Сьцяг".** Рэдактар зачыненай часопісі „Вольны Сьцяг" Язэп Лагіновіч атрымаў тры акты абвінавачаньня. Першы—за зьмяшчэньне ў № 15 „Вольнага Сьцягу" артыкулаў „Паслы і Грамадзянства", „Правал Польшчы", „Сяляне і работнікі", у якіх пракуратура дагледзела падбураньне чытачоў да ненавісьці паміж паасобнымі часткамі і клясамі насяленьня Польскай Рэспублікі і непашанаваньня дзяржаўнай польскай улады праз зьневажэньне Ураду Польскай Рэспублікі, называючы яго „ідыётычным" і „нясумленным" (арт. 129 ч. I п. 6 і 154 ч. II К. К.).

Другі—за зьмяшчэньне ў № 16 „Вольнага Сьцягу" артыкулаў „Пачалося" і „Радавы чырвонец і польскі злоты", у якіх пракуратура дагледзела падбураньні чытачоў да зваленьня істнуючага ў Польшчы сацыяльнага ладу і да ненавісьці паміж паасобнымі часткамі і клясамі насяленьня Польскай Рэспублікі (арт. 129 п. 2 і 6 К. К.).

Трэці—за зьмяшчэньне ў № 17 „Вольнага Сьцягу" артыкулаў „Па сьлядох фашыстаў" і „Крызіс рэакцыі", у якіх, па думцы пракуратуры, аўтары гэтых артыкулаў ужылі выразаў, падбураючых чытачоў да ненавісьці паміж паасобнымі часткамі і клясамі насяленьня Польскай Рэспублікі і выказалі думкі, якія могуць выклікаць публічны неспакой аб загадах ураду, а іменна, аб уціску беларускага насяленьня (арт. 129 п. 6 і 263 ч. I К. К.).

**Справа б. рэд. Яз. Лагіновіча.** 22-га гэтага лютага ў Віленскім Акружным Судзе будзе разглядацца справа б. рэдактара „Новага Жыцьця", які вінаваціцца па 154 арт. К. К. (непашанаваньне ўлады) за зьмяшчэньне ў № 1 „Новага Жыцьця" артыкулу „Голас Праўды".

**Польскія паслы і сэнатары ў Беларускай Гімназіі.** Немагчыма цяжкое палажэньне Беларускай Школы наагул і асабліва Віленскай Беларускай Гімназіі зьвярнулі ўрэшце на сябе ўвагу і тутэйшага польскага т. зв. „дэмакратычнага" грамадзянства. 4-га гэтага лютага, адведзілі Віленскую Беларускую Гімназію сэнатар Кржыжаноўскі, паслы: Вендзягольскі (Wyzw.) і Плаўскі (P. P. S.), а таксама быўшы пасол Віленскага Сойму п. Сьвяхоўскі і быўшы старшыня Тымчасовай Урадуючай Камісіі Сярэдняй Літвы п. В. Абрамовіч, каб бліжэй азнаёміцца з палажэньнем беларускай школьнай справы, тымі патрэбамі і жаданьнямі, заспакаеньня якіх дамагаецца беларускае грамадзянства ад Польскага Ўраду.

Адначасна імі быў агледжаны і Беларускі музэй, дзе шмат убачылі цікавых рэчаў з беларускае культуры і мастацтва. Госьці вынясьлі добрае ўражаньне ад Беларускіх Культурных установаў і, як кажуць самі, гэта іх яшчэ больш пераканала ў патрэбе неадкладнага задаваленьня дамаганьняў беларускага грамадзянства ў справе беларускай асьветы.

**Рэфэрат.** 12 лютага ў памешканьні Віленскай Духоўнай Праваслаўнай Сэмінарыі сябрам прэзыдыуму Беларускага Гістарычна-Культурнага Гуртка, які істнуе пры гэтай Сэмінарыі, вучнем 8 кл. А. Сідаровічам быў прачытаны рэфэрат на тэму „Чаму беларуская культура ніжэй стаіць, чым другіх славянскіх народаў".

## Весткі з вёскі.

**В. Лукі**, Несьвіжскага пав.

Недалёка ад нашае вёскі знаходзіцца маёнтак Адамова п. Селізінскага. Адной ночы ў гэтым маёнтку згарэла абора. Сторож, які пільнаваў яе, апавядае аб гэтым здарэньні так. Уночы, прыблізна каля 10 гадз., на панскі двор прышлі ўзброеныя людзі. Убачыўшы яго, скамандавалі падняць угару рукі. Абыскалі, але нічога не знайшоўшы, пачалі пытацца, дзе пан і што і дзе ляжыць. Пана ў той час якраз ня было дома. Даведаўшыся, што ў аборы знаходзіцца збожжа, яны яе падпалілі, а самі паехалі, сказаўшы сторажу, каб ішоў грэцца каля аборы. Хлопцы нашае вёскі, ўгледзеўшы пажар і думаючы, што гарыць в. Некрашы, пабеглі памагаць тушыць. Узбегшы на гару, яны ўбачылі, што гарыць панская маемасьць. Пабеглі туды, але ніякога ратунку даць ужо ня можна было, бо страха правалілася, а сьцены былі з цэглы. Даведаўшыся ад стоража прычыну пажара, яны пашлі да дому. На другі дзень, бадай што са ўсяго павету, зьляцеліся камэнданты і паліцыя і накінуліся на акалічныя вёскі хаця сторож і расказаў ім, як было дзела. Перш-на-перш арыштавалі тых, хто лётаў тушыць, а разам з імі і варту, якая хадзіла па вёсцы ў тую ноч. У нашай-жа вёсцы яшчэ зрабілі і вобыск, але такі, якога ў нас ніколі ня было за ўвесь час нашага жыцьця. Акрамя таго, што ператрасьлі ўсе манаткі, яны заставілі зьвярнуць з тарпоў збожжа, сена і ўсё, што толькі пападалася ім на вочы. Нават, абмалочаную салому, якая на гумне была ў стагох і тую разбурылі. Шукалі, як гавораць, кулямётаў. Такім чынам нічога не знайшоўшы ператрасьлі ўсю вёску. Толькі на некаторых гаспадароў саставілі пратаколы за тое, што ў іх меўся стары заржавелы калючы дрот і кавалкі такога-ж жалеза. Пасьля гэтага загадалі солтысу, каб на чацьвёртую гадзіну ўвечары сабраў усіх старых і маладых мужчын. Сабраліся. Выстраілі старых асобна, а маладых асобна ў адзін рад, запалілі ліхтар, бо цемна было, прывялі стоража, які пільнаваў маёнтак і загадалі яму, каб пазнаў тых бандытаў, якія падпалілі абору. Перагледзеўшы ўсіх ён сказаў, што ні аднаго з бандытаў тут няма. Пасьля ўсяго гэтага камэндант павятовой паліцыі з Несьвіжу, звольніў ўсіх арыштаваных. Выпускаючы, ім загадалі прывезьці ў Несьвіж па 8 пуд. сена. Так і лёс спаткаў і др.: Тананку, у якога ў часе вобыску знашлі беларускую літэратуру, а тым, на каго быў зроблены пратакол, каб даставілі Жухаўскаму камэнданту пяць фун. сала і масла і па 10 яек.

Доўга нашыя сяляне будуць помніць гэтае здарэньне і тую паліцэйскую мараль, якая сама па сабе выходзіць з гэтага: гарыць панскае дабро, няхай гарыць—не тваё дзела, ня ў сваё ня ўмешывайся. **П. С.**



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын.** Вільня, Нямецкая 22.